# Прайшоў першы форум — няхай крыху комам

Тры дні ішоў Усебеларускі (праўда, потым па кулуарах пранеслася, што гэтае слова ў назве вырашана больш не ўжываць) маладзёжны форум "Дыялог дзеля будучыні". Энтузіязм і эмоцыі "спікера" форума Святланы Каралёвай, безумоўна, яго ратавалі. Але тое, што рыхтавала яго Нацыянальная Рада, якая палічыла магчымым выйсці на форум, не разабраўшыся са сваімі ўласнымі супрацьстаяннямі і расколамі, адчувалася моцна. Як-ніяк складаецца Рада ў большасці з прадстаўнікоў так званай "левай" моладзі, камсамольцаў былых і сённяшніх, якія вынеслі з вопыту "чырвоных" папярэднікаў галоўнае — прагу да маральнага і фізічнага вынішчэння адно аднаго. Пра тое, што ў аргкамітэце не ўсё "дзякуй Богу", сведчыла і істэрычная лаянка сумна вядомага "скаута" Ігара Касцевіча на Святлану Каралёву, і дзяўчаты з аргкамітэту, што паўфорума прабегалі ў слязах. Але ўсе "радаўцы" чамусьці вельмі крыўдзіліся на спробы параўнаць іх з "камсамольцамі-кампрадорамі".

Усеагульная істэрыя дасягнула апагею да сярэдзіны другога дня. Пад час снедання арганізатаршы бегалі па сталовай, шукаючы тых, хто не заплаціў неабходныя для ўдзелу ў "мерапрыемстве" 120 тысяч, але неяк здабыў "бэдж" і прытопаў пад'есці. Дарэчы, тлумачачы такі немагчымы для шмат каго з прыехаўшых "членскі ўзнос", Рада зноў спасылалася на тое, што ў апошні момант фінансаваць форум адмовіліся ўсемагчымыя камітэты і плануемыя партнёры.

Але тут узнікаюць лагічныя пытанні. Тое, што першы блін комам — гэта зразумела. Тое, што форуму не пашчасціла ў тым плане, што ішоў ён адразу за зробленым на добрым узроўні Кангрэсам маладых палітыкаў, здараецца. Таксама, дарэчы, характэрна: нават "ружовенькай" Асацыяцыі маладых палітыкаў прасцей знайсці спонсара, чым афіцыйнай маладзёжнай структуры з асабняка на вуліцы Маркса. Арганізатары прызналі: правінцыя (не ЛКСМБ) амаль не прадстаўлена. Але навошта праводзіць форум, калі не знойдзены, не запрошаны тыя, для каго ён павінен праводзіцца? Няма магчымасці не драць шалёныя грошы са студэнтаў? Дык, можа, варта было не спяшацца з правядзеннем відовішча, у якога так і не з'явілася планаванага зместу?

...Нагадвала знешне ўсё піянерскі летнік, асабліва белыя аркушы, развешаныя па сценах Міжнароднага адукацыйнага цэнтру. Відаць, для таго, каб маркерам выкладаць свае прапановы і пажаданні. Вось і зіхацела з усіх бакоў: "Даёш бясплатную жуйку!"

Шмат хто з тых, каму было што сказаць, хутка страцілі надзею прабіцца да мікрафону, бо і першы, і палова другога дня прайшла па жорстка рэгламентаванаму сцэнарыю, распісанаму паміж С.Вазняком і г.д. Былі, праўда, у аргкамітэце людзі са, скажам, Задзіночання беларускіх студэнтаў, і яны рабілі сваю справу: працавалі ў прэс-цэнтры, дапамагаючы некаторым удзельнікам прабіць сваю думку хаця б праз баявы лісток форуму. А Ірына Жыхар, адна з удзельніц аргкамітэту, хутка стала "чалавекам нарасхват" для любых пытанняў, бо астатняе спадарства з "жоўтымі карткамі" адразу адгарадзілася ад шэраговых удзельнікаў: "Нам гэтая праблема не цікавая, бо мы распрацоўваем будучыню маладзёжнага руху, а вы тут з дэталямі".

Дзякуючы Ірыне, дарэчы, форум зрабіў адну канкрэтную справу —прыняў зварот да гарадскіх уладаў Бабруйска, якія ўжо два тыдні змагаюцца са знакамітым на ўсю Беларусь бабруйскім рок-клубам, знайшоўшы "падставу" зліквідаваць тусоўку моладзі і падлеткаў, дзе больш за дзве сотні людзей. Мікрафон музыкантам Партыі свабоды і анархістам, якія аб'ядналіся дзеля дапамогі бабруйчанам, яна перадала незапланавана, і менавіта гэта стала момантам, узарваўшым залу. Жаданне амаль усіх неяк дапамагчы паспрабавалі блакіраваць камсамольцы, але на прыняцце дакумента ў падтрымку дала "дабро" Святлана Каралёва, і патрэбны рэзананс, здаецца, атрымаецца.

Пасля прыняцця форумам выніковых рэзалюцый непрыемна было глядзець на аргкамітэтчыкаў, пачаўшых "разбор палётаў" яшчэ пры не паспеўшых зысці ўдзельніках. Але адно пытанне сапраўды не давала спакою ўсім: як жа трэба праводзіць такія форумы? І пакуль вырашалася, ці трэба наогул шукаць азначэнне словам "маладзёжная палітыка", раздаліся галасы з абвінавачваннем Святланы і яе аднадумцаў у штучнай палітызацыі форуму. Прагучала гэта абсурдна, бо адзіны налёт палітыканства з'явіўся пад час прэс-клуба, на які былі запрошаны прадстаўнікі палітычных партый. З'явілася іх дванаццаць, і спробы Ірыны Жыхар правесці "круглы стол" з заданымі тэзісамі і пытаннямі яны ператварылі ў парламент у горшым сэнсе слова — дзеля таго, каб выкарыстаць магчымасць пазаклікаць у свае рады актыўную моладзь. Але рабілі гэта так, што большай кампраметацыі саміх сябе ўявіць цяжка. У ход пайшлі абяцанні "пакрубаць шашкамі", і ў прадчуванні бойкі мы з калегамі са СМІ пачалі адсоўвацца далей. Для таго, каб спыніць клоунаў ад палітыкі, спатрэбілася пачуццё гумару ўдзельнікаў і метал у голасе вядучай. Дарэчы, аб культуры паводзін і вонкавай павазе адзін да аднаго казаць не прыходзілася — "павагу" ва ўсіх выклікала толькі блізасць вячэры.

"А як яшчэ праводзіць трэба было? Запрасілі палітыкаў, эканамістаў, каб дыскусіі ў групах і секцыях не ператвараліся ў балталогію непрафесіяналаў". Усё так, але паразмаўляць з У.Мацкевічам ці Я.Лешкаўцом можна было хіба што толькі на перакурах. Астатні эфірны час забівалі зноў жа камсамольцы.

Бліжэй да фіналу, калі ўжо прагучалі ўзаемныя абразы і супакоіліся эмоцыі, большасць прыйшла да высновы, што абвінавачваць у правале форуму Святлану Каралёву і ўвесь аргкамітэт не варта. Так, каштоўнасць усяго вымяраецца канкрэтнымі вынікамі, а ці будуць яны? Але людзі зрабілі тое, што змаглі, тое, што ім дазволілі зрабіць, тое, што яны палічылі неабходным зрабіць.

***Ціна КЛЫКОЎСКАЯ, "БМ"***

## Из резолюции молодежного форума "Диалог ради будущего"

**...Отсутствие условий для становления и нормального функционирования молодежных общественных организаций (непомерно высокая плата за аренду помещений и пользование средствами связи, пресс налоговой политики и пр.) ставит их под угрозу самоликвидации. Отход государства от решения молодежных проблем уже в ближайшем будущем грозит обернуться самыми негативными последствиями: Беларусь рискует потерять не только целое поколение своих граждан, но и утратить перспективу собственного развития в качестве суверенного и независимого государства.**

## Из Декларации молодежного форума "Диалог ради будущего"

**...Необходимо принять ряд первоочередных и безотлагательных мер по социальной поддержке молодежи и общественных молодежных объединений, движений и инициатив; разработать и принять программные основы государственной молодежной политики, развить и упорядочить законодательную и нормативную базу; придать статус, позволяющий регулировать отношения от своего имени государственным структурам молодежной политики, создать эффективные финансовые механизмы ее реализации, в том числе путем налоговых льгот предприятиям различных форм собственности, общественным объединениям, религиозным организациям, фондам, содействующим решению молодежных проблем.**

**Нашей ближайшей целью является создание пространства для диалога всех заинтересованных в осуществлении молодежной политики сторон: молодежи, молодежных объединений и государства. Мы против использования молодежи как орудия в политических и межнациональных конфликтах.**

## Из резолюции "О взаимодействии молодежных организаций и государства"

**...Придать Комитету по делам молодежи статус самостоятельного органа.**

**...Верховному Совету Республики Беларусь принять соответствующие изменения и дополнения в Закон "Об общих началах государственной молодежной политики".**

**...Предложить президенту либо представителю президентской администрации в конце каждого года проводить встречу с молодежью.**

**...Создать организацию национального уровня, которая бы объединяла молодежные организации различных уровней и координировала их совместные действия, представляла их интересы в государственных структурах. Существующая Всебелорусская национальная рада молодежных и детских организаций могла бы стать базой для становления этой организации.**

**...Проводить Всебелорусский молодежный форум ежегодно.**

# Партыя кажа: трэба. Моладзь не кажа: ёсць?

Сонечна і халадна, мінус 15°С. У мінулы чацвер белы снег і шэры мармур будынкаў каля ўваходу ў метро "Плошча Незалежнасці" з боку праспекта Скарыны і каля паштамту былі расквечаны бел-чырвона-белымі сцягамі. Беларускі Народны Фронт зноў спрабаваў прыцягнуць увагу да праблем Бацькаўшчыны. Пікетчыкі раздавалі заяву грамадскага кабінета БНФ.

"На працягу бягучага года ўрад Лукашэнкі падпісаў два пагадненні з некторымі расійскімі кампаніямі, згодна з якімі 51% акцыяў Мазырскага нафтаперапрацоўчага завода адышлі расійскай кампаніі "Славнефть", і 74% акцыяў аб'яднання "Нафтан", уключаючы Наваполацкі НПЗ і заводы нафтахіміі, павінны перайсці расійскім кампаніям "Лукойл" і "ЮКОС".

Нафтахімія — адна з тых галін прамысловасці, якія яшчэ працуюць. Таму заклапочанасць людзей разумелася адразу: аддаваць яе абы-каму невядома за што...

Каля паштамту стаялі чалавек пяць, і мяне здзівіла, чаму іх няшмат.

— Мы зарэгістравалі два пікеты, — растлумачылі мне, — тут і насупраць Дому ўрада. Тых, хто не ходзіць там, мы зловім тут.

Каля ўваходу ў метро стаяла чалавек трыццаць, са сцягамі і плакатамі. З'яўляліся тут Пазьняк, Сіўчык, Навумчык. Нягледзячы на мароз, людзі стаялі.

— Міліцыянты да вас не чапляліся? — пытаюся ў жанчыны.

— Не, бо ў нас усё зарэгістравана. Падыходзілі некаторыя, цікавіліся, мы з імі размаўлялі.

— Вы сапраўды думаеце, што ад гэтага нешта зменіцца?

— Мы тут, каб усе бачылі і разумелі: нельга гандляваць краінай. Трэба ўскалыхнуць гэтае балота, людзі павінны ведаць, што гэта ж нашае і патрэбна яно не толькі нам. Гэтыя заводы будуць працаваць і для нашых дзяцей. Трэба, каб людзі ўсвядомілі гэта.

Аб патрабаваннях ніхто не казаў, яны ў заяве: "Гэтай заявай мы звяртаемся да Вярхоўнага Савета Беларусі і просім правесці адпаведную экспертызу пагадненняў, падпісаных Лукашэнкам і ўрадам".

Сумна, але ў пікеце амаль не было маладых. Бачыў я хіба Паўлюка Карназыцкага з маладзёжнай фракцыі БНФ.

Увечары я наведаў пасяджэнне маладзёжнай фракцыі. У запланаваны час з асабіста запрошаных на пасяджэнне з'явілася 15, запрашалі ж 35. Спытаў пра ранішні пікет. Амаль ніхто не ведаў.

Пакуль прысутныя чакалі сваіх сяброў, гаварылі госці. Госцем быў Паўлюк Канавальчык з левацрадыкальнай арганізацыі "Чырвоны жонд". Анархісцкія ідэі фракцыя БНФ успрыняла несур'ёзна, некаторыя пасмейваліся, але ў спрэчку не ўступалі. Пытанні Паўлюку кідалі адныя і тыя ж людзі, з чаго я вырашыў: калі знікнуць з маладзёжнай фракцыі 5-6 чалавек, што будзе з іншымі?

Падчас перапынку я заўважыў, што пасмейваліся з анархіста дарма. Двое сур'ёзна зацікавіліся ідэямі "Жонду".

Парадак дня ўключаў пытанне аб перавыбарах кіраўніцтва і рэарганізацыі фракцыі. Але пасяджэнне раптам зрабілася закрытым, і прэсу (гэта значыць мяне) з залы "запрасілі". Канешне, дзіўна, што адзін з вялікіх сакрэтаў — дзейнасць фракцыі ў мінулым годзе. Як культурны чалавек, я выйшаў, як журналіст — усё ж даведаўся, што змены кіраўніцтва не адбылося, пытанне перанеслі на наступны раз. Пасля галасавання за пытанне "Галасаваць ці не галасаваць" маладзёжная фракцыя абрала Раду для апрацоўкі далейшых кандыдатур кіраўніка і яго наменікаў. Кандыдатуры будуць абірацца са складу Рады.

Рада з'явілася вынікам больш за трохгадзіннага пасяджэння! Міжволі падумаеш: калі столькі "засядаць", то і самім на ўдзел у пікетах часу не застанецца. Што ўжо казаць пра каардынацыю дзеянняў ці хоць бы інфармаванасць патрыятычна настроенай моладзі! Пасля гэтага не дзіўна, што моладзь ідзе да радыкальных, але больш дзейсных анархістаў, да "левых" ці надта "правых"... Моладзь хоча змяніць умовы жыцця зараз, і ёй усё роўна, пад якімі сцягамі рабіць свет лепшым.

***С.ПУЛЬША, для "БМ"***

● Есть и такие

# ЛСД выходит на "тропу войны"?

Левое студенческое движение (ЛСД) решило начать свои действия. Продрав глаза от новогодних и рождественских алкогольных паров, оно решило сделать акцию, не имеющую никакого отношения к президенту и правительству. Акция будет посвящена диссидентам.

На Украине посадили в тюрьму легенду хипповского движения, основателя Конфедерации анархистов Украины А.Розенвайна по кличке "Дринч". А.Розенвайн — первый украинский еврей, отчисленный из тартусского университета за эстонский национализм (!), почетный гражданин города Запорожья, удостоен этого титула за закрытие химически опасного производства. После этого Дринч эмигрирует в США, где встречает негров, продающих кокаин белым капиталистам. Негры-коммунисты объясняют ему, что они губят здоровье капитализма, а на вырученные деньги финансируют вооруженную борьбу в Латинской Америке. Идея и тактика пленили Дринча.

После возвращения на Украину он задерживался за протест против строительства в Одессе нефтяного терминала, но был отпущен как гражданин США. В Киеве организовал партию марксистов-ленинцев, которая сожгла несколько офисов, был задержан при попытке вывезти в Россию на продажу мешок маковой соломки. На эти деньги А.Розенвайн планировал издать свою газету. Осужден на год.

ЛСД продолжает серию акций солидарности — первый пикет у Украинского посольства в Москве проводили российские анархисты. На проведение пикета в Минске уже подана заявка. "Не его вина, — говорят активисты ЛСД, - его его революционная борьба тесно связана с коноплей и марихуаной".(!) Пикет собирается быть непродолжительным. В его рамках участники проведут 10-минутную сухую голодовку. Чтобы "не разбазаривать силы", Левое студенческое движение будет одновременно пикетировать посольство Турции по поводу нарушения Турцией Декларации прав человека и заключения в тюрьму правозащитников. Ведется поиск повода к пикетированию представительства ООН, благо два посольства и представительство находятся в одном здании.

***Сергей ПУЛЬША, для "БМ"***

# Вольгу — "на царства"?

***У той час, калі большасць нармальных грамадзян былі заклапочаны перадкнавагоднімі справамі, студэнты, акрамя сесіі, разбіраліся яшчэ і са сваім кіраўніцтвам.***

***Як паведаміў прэс-аташэ Свабоднага прафсаюза студэнтаў Ігар Бухараў, па факультэтах БДУ прайшлі сходы першасных суполак СПС. Галоўным пытаннем было не святкаванне Каляд, а вылучэнне новага кіраўніка СПС.***

Кіраўніцтва прафсаюза студэнтаў выказала рэзкую незадаволенасць звальненнем з газеты "Свабодныя прафсаюзы" журналісткі Вольгі Мамчыц, раней адлічанай з факультэта журналістыкі БДУ, і вырашыла прапанаваць ёй пасаду кіраўніка СПС. Улічваючы тое, што В.Мамчыц абараняла правы студэнтаў усімі сродкамі і асабліва вылучаючы шэраг артыкулаў "Студэнт, абарані сябе сам", кандыдатура журналісткі была ўспрынята з энтузіязмам сябрамі СПС. Ініцыятыва была падтрымана сходкамі студэнтаў гістфака, ФПМа, ФЭФа, філфака. На факультэце журналістыкі В.Мамчыц атрымала абсалютную большасць — галасоў атрымалася больш, чым прысутных сяброў. Растлумачыць усё можна тым, што некаторыя галасавалі дзвюма рукамі, і гэты факт (па патрабаванню гэтых асоб) быў занесены ў пратакол пасяджэння.

Кіраўніцтва СПС спадзяецца, што на наступным з'ездзе Свабоднага прафсаюза студэнтаў, які павінен адбыцца не пазней лютага 1996 г., Вольга Мамчыц атрымае абсалютную большасць галасоў.

***Сяргей ПУЛЬША***

# Банальная история, продолжения которой могло бы и не быть, но...

**"ШТЫКОВОЕ"** восприятие всего нового и недоступного для понимания, сформировавшееся у людей еще в эпоху первобытности, по сей день подвергается критике философов. Однако отвержение — один из важнейших этапов в реализации любой мало-мальски нестандартной идеи, на котором разрешается извечный гамлетовский вопрос "Быть или не быть?" В свое время над ним изрядно поломало голову поколение 60-х, когда обществу была предложена новая форма самовыражения посредством рок-музыки. Сегодня трудно не согласиться с тем, что это направление культуры оказалось очень даже жизнеспособным, и потому обращать в "иную веру" тех, кто сознательно вступил на тропу рок-н-ролла, так же бесполезно, как поворачивать реки вспять.

Тем не менее в Беларуси до сих пор продолжается "холодная" война между обладателями противоположных мировоззрений, как правило, сопровождающаяся навешиванием на рок-движение всевозможных "ярлыков". Недавние "разборы полетов", связанные с деятельностью бобруйского творческого объединения "Виста-версия", еще раз доказывают, что современных подростков пытаются лишить, пожалуй, самого главного в жизни — права на самоутверждение в нашем хлипком и практически полностью утратившем духовность обществе.

Последний, седьмой по счету, республиканский фестиваль "Рокада", состоявшийся в Бобруйске 23 декабря (о нем мы рассказывали в одном из предыдущих номеров "БМ"), вряд ли можно отнести к разряду эпохальных. Однако благодаря целенаправленным и (чем черт не шутит?) заранее продуманным манипуляциям общественным мнением со стороны местной газеты "Коммерческий курьер" разговоры о нем не прекращаются по сей день, так как обличительные статьи зачастую вызывают куда больший резонанс, чем слащавые оды. Присутствовавший на фестивале фоторепортер вышеупомянутого издания товарищ Шарников был возмущен и шокирован действительностью, ибо до этого, судя по всему, имел представление о рок-тусовках лишь понаслышке. Изумлению его не было предела, когда на сцене появилась бобруйская команда "M.S.Pigs", один из музыкантов которой был облачен в майку со стилизованной свастикой. То, что спустя всего лишь (!) полвека после Второй мировой бас-гитарист Александр "Брос" Василевский решил использовать символику древнеиндейских племен в качестве одного из элементов шоу, вызвало у представителя прессы однозначную реакцию: бобруйский рок-клуб — рассадник фашизма, и его нужно немедленно "прикрыть". И даже после продолжительной беседы с президентом "Виста-версии" Юрием Мищенко, в ходе которой, казалось бы, все точки над "і" были расставлены, товарищ Шарников в своих убеждениях остался непоколебим. 12 января журналистская "мина", действие которой нетрудно было предугадать, ибо значительную часть населения этого провинциального городка составляют ветераны Великой Отечественной, сработала. Возможно, последствия некомпетентности, а точнее субъективности суждений журналиста не были бы столь печальными, однако в ход событий посчитали нужным вмешаться городские власти, и это поставило под угрозу саму возможность существования единственного на сегодняшний день в Бобруйске официально зарегистрированного рок-клуба.

Дальнейшие события развивались по вызубренному за 70 лет сценарию и в лучших традициях провинциального "совка". По словам очевидцев, на заседании горисполкома, которое состоялось через несколько дней после выхода компрометирующей "Виста-версию" публикации, мэр Бобруйска г-н Романовский щедро одаривал подчиненных моральными оплеухами, что в официальных кругах расценивается как "принятие мер". Однако даже на этом этапе скандал еще можно было предотвратить, если бы мэр города для прояснения ситуации посчитал нужным встретиться непосредственно с представителями творческого объединения. Но этого не случилось, и бюрократическая машина начала набирать обороты. Поэтому письменное опровержение от имени Совета музыкантов "Виста-версии", предоставленное работникам горисполкома этим же вечером, произвело эффект выстрела в пустоту.

Пока в кулуарах власти шло бурное обсуждение последних событий и с губ чиновников то и дело срывался вопрос "Так кто же наказан?", сотрудники "Коммерческого курьера" приняли решение опубликовать опровержение, что, учитывая его далеко не безболезненное для редакторского самолюбия содержание, явилось поступком достаточно мужественным. Честь и хвала вам, коллеги!

Однако ни музыканты, ни журналисты не подозревали, что их ожидает еще один "приятный" сюрприз "от Шарникова". 23 января, в день выхода в свет опровержения, областная газета "Могилевская правда" под заголовком "Рок-свастика?" (чувствуете, куда ветер дует?), первыми строчками которого могли бы гордиться даже самые высокопоставленные служители Фемиды: "...Это не Мюнхен 20-х годов и не Берлин 30-х и не сходка лондонских "бритоголовых" образца бурных 60-х. Это Бобруйск середины 90-х годов, тусовка рок-клуба "Виста-Версия"..." За этими словами кроется смертный приговор не только творческому объединению, но и всему рок-движению, ибо зверства нацистов никогда не будут забыты и прощены. Вот только как объяснить простому обывателю, что рок-н-ролл и фашизм — понятия несовместимые, так как приверженцы этой культурной концепции выступают против каких бы то ни было форм насилия? В результате ответ на вопрос, кому же выгодно превращать современную молодежь в стадо тупых баранов, напрашивается сам собой. Ведь сколько можно применять методы коммунистического террора ко всему новому и неутвердившемуся? Да, это не Мюнхен 20-х и не Берлин 30-х. Это Беларусь 90-х. Страна, которая пережила фашизм и, никогда больше не позволит поставить себя на колени.

Понимая, что сезон "охоты на рок-ведьм" официально объявлен открытым, руководство "Виста-версии" сделало все возможное для того, чтобы отстоять права бобруйских музыкантов. На состоявшемся в Минске форуме молодежи Беларуси "Диалог ради будущего" был принят меморандум в защиту рок клуба:

"Уважаемый господин мэр. Около двух лет Вы занимаете ответственный пост мэра г.Бобруйска. Именно потому, что стали заметны реальные изменения к лучшему в жизни города, мы решили обратиться к Вам за поддержкой.

Пять лет существует молодежное творческое объединение "Виста-версия". Пять лет молодые люди нашего города имеют возможность собираться под крышей городского Дома культуры. Одним из важных показателей организационно-воспитательной работы клуба является то, что за это время ни один из членов клуба не преступил закон.

Мы слышали о Вас как об отзывчивом, серьезном и ответственном человеке. Вы знаете, как непросто приобрести авторитет в молодежной среде. Вы знаете, как просто его потерять, как легко молодых можно увести в крайность, в хаос, в ложь. Мы с Вами работаем для того, чтобы этого не произошло. Мы с Вами делаем одно дело.

Ошибка, допущенная средствами массовой информации в отношении творческого объединения, ударила рикошетом по всему молодежному движению. Тяжесть ответственности за несправедливые обвинения легла на наши плечи. Мы обязаны исправить эту ошибку. Вопрос — как? Мы скажем: демократично и честно. А демократия — это диалог, разговор двоих.

Ваш опыт и мудрость помогут разобраться в спорных вопросах. Мы обязательно встретимся и поговорим. Приходите к нам, посмотрите на нас. У нас есть планы работы с городской молодежью. Нам нужна Ваша моральная поддержка в координации работы центра.

Молодежь — это реальная сила, на которую Вы можете опираться в своих начинаниях!"

Теперь дальнейшая судьба бобруйского рок-клуба полностью зависит от здравомыслия городских властей. Вопрос, быть или не быть, по-прежнему дамокловым мечом висит над творческим объединением. Но ведь если звезды рок-н-ролла зажигаются, то это кому-нибудь надо?

***Светлана ГОЛОВКИНА,***
***специально для "БМ"***

# Вперед, к традициям

С ублажающим душу скрипом и в нашем милейшем городе появились рок-клубы. Мало-мальски активному тусовщику не составит труда в любой из уик-эндов мелькнуть своим фэйсом в каждом из них, благо это сделать просто, ведь заведений-то подобных всего три: "Аддис-Абеба", "Три поросенка" да "Cosmopoliten club". И хотя группы во всех трех выступают по большей части одни и те же — у каждого клуба свое лицо, своя атмосфера.

Если интерес к рок-н-роллу у вас прикладной (пива попить под музычку) — пожалуйте к "Поросятам". У "Аддис-Абебы" — дискотечный налет. Тем же, кто убежден, что музыка самодостаточна, дорога в "Cosmopoliten". Кстати, этот клуб — явление довольно любопытное, ибо вызывающей демократичностью он давно уже завлек в свои недра немалое количество музыкантов и публики. Наблюдаемое же отсутствие прагматизма со стороны организаторов дела заставляет задуматься на тему "возможно ли". Общение с Виктором Бахуром, человеком в клубе не последним, дало понять, что все просто, как гамма, сыгранная одним пальцем. Принцип Космополитена таков: музыканты поиграли — публика послушала, публика платит деньги — музыканты получают возможность выступать (хозрасчет называется).

Учитывая, что играть здесь могут любые группы, даже с нулевой степенью раскрутки, клуб выполняет также и роль своеобразного стимулятора творчества. Надо быть музыкантом, чтобы понять, что есть первое выступление на людях. К счастью дебютирующих групп, космополитская публика не страдает претенциозностью и любого принимает с распростертыми объятиями. Кстати, и группы более-менее раскрученные клуб стороной не обходят. Возникает резонный вопрос — почему? Ведь за выступление, в отличие от тех же "Поросят", музыкантам не платят. Дело в том, что здесь играют для собственного удовольствия, безусловно, не забывая и об удовольствии зрителей.

Естественно, как и всякому жизнедеятельному организму, Космополитену свойственно развитие: аппаратура прикупается, свет появился более-менее приличные, к группам с воспитательной целью предъявляются определенные требования (например, наличие часовой программы).

Главное же, что рок-н-ролльного духа в клубе хоть отбавляй. И неудивительно, ведь рок-н-ролл и начинался с подобных клубов. Позже волна, выплеснувшая его из небольших зальчиков на стадионы, упростила смысл и значение этой музыки, сделала ее массовой, а следовательно, и более примитивной. Поэтому возвращение рок-н-ролла в клубы — явный признак развития, хотя бы и с оглядкой назад.

***Юлия ВАСИЛИШИНА,***
***для "БМ"***






Фестивальный центр "АКВАРИУМ", активно набирающий популярность, нашел новую, мало практикуемую в подобных заведениях, форму работы. В шоу-программы и дискотеки, проходящие в "Аквариуме" по ночам, стали включаться блоки "живой", акустической музыки. 26 января в центре прошло выступление группы "BESIDES", а с 27-го регулярные концерты стал давать молодой, но уже популярный коллектив "THE CRANKS", исполняющий классический рок-н-ролл.



В зале Альтернативного театра уже во второй раз прошла церемония "Рок-коронация". На сей раз "Гран-при" получила группа "ROUBLE ZONE". Им же достался приз за лучший альбом, а их вокалист Джеггер был удостоен звания лучшего шоумена. Кроме "Рублевой зоны", лауреатами стали "НРМ" — за тест, Кася КАМОЦКА — "рок-княжна", "ПАЛАЦ" — за совмещение традиций и современности, "ПАРАДОКС" — за лучший дебют и ИгорьВОРОШКЕВИЧ ("КРАМА") — за верность жанру. Спонсорами мероприятия выступили, как обычно, "Дайнова" и Фонд Сороса.

